Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

# ІСКРА

Выходзіць тры разы у тыдзень.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 5. Вільня, Субота, 20-га чэрвеня 1925 г. Год І.

## У трэці раз...

У трэці раз на гэтым самым мейсцы мы даем разгляд і запраўдную ацэнку тых пастановаў „Крэсавай сэкцыі“, якія толькі што зацьверджаны польскім урадам, як наказ міністрам „Зямельных Рэформаў“ і асьветы — для безадкладнага выкананьня (глядзі текст „Пастановаў“ на 3 стар.).

Два разы падрад наша газэта была канфіскавана мясцовай уладай за разбор і ацэнку таго, што запраўды дадзена ўрадам беларускаму сялянству ў гэтым акце ўраду.

Трэба думаць, што ўрад прыдае вельмі важнае значэньне тым дарам і дабрадзействам, якія зьмешчаны ў гэтых 20 пунктах, і — заінтэрасаваны ў тым, каб інфармацыя аб іх дайшла да шырокіх кругоў удзячнага яму крэсавага сялянства...

Але-ж мясцовая ўлада павінна зразумець і тое, што мы ня можам даць нашым чытачом гэтага ўрадовага акту без разгляду і належнай ацэнкі. Гэта-ж--ня толькі наша права, але і абавязак!

Дык вось — у трэці і апошні раз робім мы спробу—выпаўніць гэты наш абавязак.

Пасьлядзім-жа, што-ж даў урад „Крэсам“.

Перад усім найцікаўней — бо сымвалічна!—на першае мейсца ўсей „крэсавай“ справы ўрад высунуў—асадніка.

Польскі асаднік, але не беларускі ці ўкраінскі селянін, вось—запраўдны і прывілеяваны аб‘ект урадовых клапотаў апекі на „Крэсах“, запраўдны, калі ня выключны, суб‘ект „зямельнай рэформы“ на беларускіх і ўкраінскіх абшарах.

Першы пункт „маніфэсту“ і кажа аб тым, каб замацаваць правы асадніка на землю на „Крэсах“; пункт другі, кажучы аб зямельных „патрэбах мясцовага насяленьня“, перад усім зусім ня кажа, што гэта за мясцовае насяленьне. Гэтым мясцовым насяленьнем лёгка можа аказацца ўся тая новая „фальварачная служба“, якую цяпер польскія абшарнікі масава выпісываюць з „Крулеўства“ дый з „Малапольскі“—на замен тутэйшых беларусаў ці ўкраінцаў.

Але гэты пункт ня мае навет ніякага юрыдычнага зьместу, бо загад „шырока і заботліва трактаваць патрэбы“ і г. д., мае чыста „маральны“, зусім нявыразны характар. Дык ня толькі не дае нічога, але нічога ясна і азначана не абяцуе. Трэці пункт аграрнай часткі „маніфэсту“ кажа аб камасацыі, да якой неяк з боку, як драбніца, на якой навет урад ня спыняецца даўжэй, як „дадатак“, прылучаюцца прырэзкі... Якія гэта маюць быць прырэзкі да „карлавых“—галодных гаспадарак менш за 1/2 гэктара,—можа, не вялікшыя за гэтых „карлаў“,—на гэтай драбніцы ўрад навет ня лічыць патрэбным спыніцца.—Гэта-ж—не асаднікі!..

Далейшыя пункты кажуць аб пасьпешнай ліквідацыі сэрвітутаў, якая, зразумела, патрэбна і карысна панам-зямліўласьнікам, а зусім не сялянству; (дый зробіцца яна — з падвойнай крыўдай для апошняга), і аб палепшаньні зямель, асушэньні балот... Ну, аб гэтым маніфэст кажа толькі слова, бо на запраўднае шырока-пастаўленае дзела перад усім ня мае грошаў... І гэтыя дробныя крэдыты, калі навет знойдуцца, дык пойдуць, як дагэтуль, на палепшаньне панскіх зямель, якія пасьля селянін-хлебароб будзе даражэй толькі купляць—праз той „Банк Рольны“, які мае цяпер пашырыць сваю дзеяльнасьць (вельмі слабую і ў цэнтральнай Польшчы) і на абшары Крэсаў,—аб чым кажа апошні „аграрны“ пункт „Маніфэсту“.

Вось і ўсё, што „даў“, ці вярней маніцца даць урад Беларускаму сялянству ў справе „зямельнай рэформы“.

Ці варта было аб гэтых „дарах“ шырока рэклямаваць у асобным „Маніфэсьце“?!

Але дзе-ж парука нат за тое, што тыя „карлаватыя“ драбніцы зямлі, якія суліць урад сялянству,—што гэтыя запраўдныя „крошкі з асадніцкага стала“, на „Крэсах“ — запраўды будуць кінуты мясцоваму насяленьню?..

Найлепшай ілюстрацыяй да гэтай музыкі з цэнтру з‘яўляецца тое яе „рэха“ на мясцох, аб якім кажа надрукаваная ў гэтым нумяры інтэрпэляцыя...

З яе ясна, што мясцоваму насяленьню ня толькі не даецца зямля, але ад яго яшчэ падчас і *адбіраецца яго ўласная*...

Што-ж сказаць аб пунктах, датычучых школы і асьветы.

Дзіўна перад усім, што—пасьля выданьня закону аб мовах у школах на „Крэсах“, закону, які праз месяц будзе спаўняць першыя ўгодкі сваіх народзін, патрэбавалась ня толькі, так сказаць, першае (навет 2 „першых“) звычайнае „выканаўчае распараджэньне“ да яго ўвядзеньня ў жыцьцё, але цяпер—і другое—надзвычайнае—у парадку амаль не „Маніфэсту“...

Але яшчэ дзіўней, што як першае, так і гэнае цяперашняе, ня толькі ня выконываюць закону, як бы ён крыўдны ня быў, але ў значнай меры спыняюць, касуюць тое, што пастаноўлена ўсімі Законадаўчымі ўстановамі Рэспублікі.

Бо, паводле закону 31 ліпня, павінны адчыняцца чыста беларускія школы там, дзе ёсьць патрэбная лічба жадаючых гэтага бацькоў, а няма 25 польскіх дзяцей.

А вось урад міністру асьветы Ст. Грабскаму загадывае тварыць *толькі і выключна „двуязычныя“*—польска-беларускія школы...

Ня кажучы ўжо аб тым, што гэтыя „двуязычныя школы“ будуць, як лёгка прадбачыць, мейсцам заўседных зьдзекаваньняў над беларускай мовай—над душой беларускага дзіцяці, местам таго, што ў расейскай пэдагагічнай літэратуры даўно акрэсьлена трафным словам: „школьная інквізыцыя“, трэба сцьвярдзіць перад усім, што сама вышэйшая ўрадовая ўстанова Рэспублікі ясна і выразна нарушае і заклікае падуладныя ёй органы да нарушэньня—закону.

На гэта павінны-ж зьвярнуць увагу перадусім парлямантарныя прадстаўнікі беларускага народу.

## Давераныя вёскі.

Вёска т. зв. Крэсаў, наша беларуская вёска стала камэртонам унутранай палітыкі Польшчы. Бяда толькі ў тым, што пан Тугутт — радня Грабскіх і ім падобных, што той ці іншы з іх, або глухі, як мур, або ня хоча слухаць, а з гэткай прычыны ніяк ня могуць папасьці ў тон, ды зайграць нешта людскае. Ад іх аркестру ня толькі трудна ўсядзець у Польшчы, але навет заграніцай морщчацца—вушы затыкаюць.

Толькі й чуеш, як пад іх пякельную музыку ўся крэсавая адміністрацыя на абшарах усяе Заходняе Беларусі ды Украіны адбівае свой: гуся-сюся!

Танцуй уража, як пан кажа—чуе пагрозу селянін, але-ж цяпер ня то, што даўней было, гэта-ж ня паншчына, ужо працоўны знае сабе цану—як беларускі селянін, чхае сабе на ўсе гэтыя пагрозы.

Высокі тон гэтага камэртона, ня гледзячы на вялікі панскі гармідар, чуюць працоўныя: з Лодзі, Шлёнску, Варшавы,—чуюць ды адклікаюцца.

Тады няўдалыя музыканты падымаюць яшчэ большы шум-гам, ды заводзяць такую крутуху, пры якой лёгка і карк скруціць. Ад гэдакіх гульняў — крывавіцца жыцьцё селяніна. Але вёска павінна пераняць, вытрываць, стаяць у сваёй самаабароне, даваць свой голас. Возьмем з самага нізу: як солтыс, войт, ну, а пра староства нечага й казаць — ці яны выяўляюць волю вёсак, ці яны бароняць іхнія інтарэсы? Не, гэта людзі ў большасьці назначаны вышэйшым урадам ды для вёскі шчасьцем ня служаць, а толькі—робяць сваю „палітыку“.

Сучасным беларускім вёскам неабходна мець сапраўдных сваіх прадстаўнікоў ці давераных, не па аднаму—па некалькі з кожнае вёскі, каб яны маглі лепей свае справы разглядаць, адзін аднаго правяраць, ды супольна аба ўсім радзіць

Цяперашні польскі закон не пярэчыць выбіраць сваіх выбарных ці давераных дзеля вырашэньня спраў, датычачых усяе вёскі.

Пакажам некалькі такіх жыцьцёвых фактаў. Напрыклад: выбіраюцца для збору падпісаў ці падачы дэкларацыі школьнаму інспэктару, для вырашэньня спрэчак з панам аб сэрвітутах, пашы, дарозе; для пасылкі хадакоў да сваіх паслоў, для збору грошаў на выпіску газэт; для надзяленьня ўрадавымі пазычкамі на адбудову гаспадарства, для збору ахвяр на палітычных вязьняў і іншыя. Бязумоўна, што такія давераныя перад уладай гэта — часовыя, але для вёскі выгадна мець іх, наагул карысна бачыць перад сабой сваіх пастаянных давераных па справам вясковым, а спраў такіх вёска за гэныя часы мае столькі, што й не пералічыць. Вось, паліцыянт ці які-колечы ўрадовец абабіў селяніна—вінаватага ці невінаватага, (усяроўна біць ня мае права) — зараз-жа гэтыя давераныя зьбіраць павінны подпісы сьведкаў, ды да паслоў у Сойм. Вось, надыходзяць выбары солтыса, войта, гміннай рады — ізноў давераных абавязак назначыць выбаршчыкаў сваей вёскі, каб галасавалі за свайго чалавека.

Тыя-ж давераныя арганізуюць пажарную сама зашчыту, розную талаку і г. д.

Пэўна-ж знойдуцца з сялян, якія скажуць, што гэтыя давераныя памогуць у нашым пакутным жыцьці, як кашаль у хваробе.

Дык ведайце-ж, што такі селянін найгоршы вораг наш, ды нат‘ шкодзіць сам сабе. Як на пахілае дрэва скачуць козы, ды па ім топчуцца, а хто? Вы ўжо ведаеце! Аднак ён хоча яшчэ ніжэй прыгнуцца. А тым часам, ёсьць пагаворка: што каб мужык і конь ведалі сваю сілу, дык-бы на іх ня езьдзілі-б!

Вось, да гэтай веды, да такой сьвядомасьці — трэба ўсімі сіламі сялянам дабівацца.

Перажываем трудна-пакутныя часы, а дзеля гэтага наш сьвяты абавязак быць сьвядомымі і арганізованымі. Наша сіла — у нацыянальна-сацыяльным аб‘яднаньні.

## Неспадзяванае „адкрыцьце“.

Польская буржуазія, захапіўшы ўладу ў уваскросшай Польшчы, пачала зусім выразна вясьці палітыку перакладаньня ўсіх цяжараў дзяржаўнага будаўніцтва на працоўныя масы — сялянства і работнікаў. Аб тых нялічаных цяжарах, якія нясуць на сваіх плячох сяляне — асабліва нашы „Крэсавыя“ сяляне (беларусы, украінцы) — столькі ўжо гаворана, што і паўтараць абрыдла. Цікаўней для нашых чытачоў менш вядомае для іх палажэньне работнікаў у Польшчы.

Вось-жа, пэўне, шмат каму памятны гутаркі ў польскай прэсе і ў польскім Сойме аб тым, што, каб ратаваць эканамічны дабрабыт Польшчы, трэба дайсьці таго, каб вытворчасьць працы работнікаў павялічылася. Трэба—казалі прадстаўнікі польскіх прамыслоўцаў,—каб работнікі самахоць прынесьлі на аўтар Айчызны свае сацыяльныя заваяваньні, перадусім—8-гадзінны рабочы дзень. Толькі тады прамысловасьць у Польшчы здолее разьвівацца, як сьлед, не баючыся заграпічнае канкурэнцыі. Бо-ж праца работніка ў Польшчы—дужа благая, непрадукцыйная, — работнікі гультуюць, ня хочуць рабіць, як сьлед, ды йшчэ дамагаюцца вялікшае платы. І вось пачалося „ратаваньне“ Айчызны шляхам абрэзываньня і без таго малых заробкаў работнікаў і павялічэньня лічбы гадзін працы—з васьмёх да дзесяцёх.

Праўда, навет польская правіца часамі абуралася на лішнюю прагавітасьць польскіх фабрыкантаў і прамыслоўцаў, якія хочуць коштам працоўных набіваць свае кішані грашыма. Так, эндэцкая „Gaz. Warsz.“—і тая з абурэньнем аблічала, што некаторыя прамыслоўцы зарабляюць на сваіх таварах ад 100 да 300 процантаў! Але — чыя сіла, таго і права! І вось урад даў згоду на павялічэньне рабочага дня ў галоўных галінах прамысловасьці.

Ці-ж запраўды праца работнікаў у Польшчы та-

кая ўжо благая і непрадукцыйная, як гэта кажуць прамыслоўцы?

Адказ на гэта надовячы далі зусім бесстаронныя судзьдзі—англійскія госьці. Група сяброў англійскага парляманту, пераважна прадстаўнікоў англійскага капіталу, аб'яжджала Польшчу і знаёмілася з яе прамысловасьцяй, каб выясьніць сабе, ці варта ўкладаць англійскія грошы ў гэтую самую прамысловасьць. І вось надовячы—у гутарцы з польскімі журналістамі—галава англійскае экскурсіі заявіў дасло̆ўна, што **ў капальняным промысле Польшчы выдайнасьць працы польскага работніка вышэй за выдайнасьць працы англійскага работніка!**

Ведама, для англійскага капіталу гэта чыстая знаходка — **танныя** работнікі, ды йшчэ выробляючыя шмат больш за **дарагіх** англійскіх! Але гэтая заява прадстаўніка англійскіх капіталістаў—гэта-ж найлепшы доказ таго, якімі ілжывымі былі лемантаваньні іх польскіх калегаў аб „непрадукцыйнасьці“ працы работніка ў Польшчы! Гэта—доказ крывадушнасьці пануючае клясы, якая не паўстыдалася прыкрыць свае воўчыя апэтыты паклёпам на свайго-ж польскага работніка, які сваей крывёй здабываў незалежнасьць Айчызны...

**К. Фалькевіч.**

## Прэса аб „пакце бясьпечнасьці“.

У польскай прэсе, якая даўно ўжо з трывогай сьмяротнай прыслухоўваецца праз дзьверы да сакрэтных размоваў высокіх паноў, вестка аб паразуменьні Англіі з Францыяй, ды іх абедзьвюх з Нямеччынай—коштам Польшчы—выклікала вялікае замяшаньне.

„Robotnik“ слушна кажа, што „Англія, падчырківаючы так дэманстрацыйна нятыкальнасьць заходняй граніцы (Нямеччыны), тым самым дае зразумець, што не прыдае роўнай вагі... іншым пастановам Вэрсальскага Трактату. Так гэта і зразумелі Нямеччына і Расея“. Бо-ж у выпадку пагвалчэньня Нямеччынай граніцаў усходніх — з Польшчай, Англія „ня рушыць навет пальцам у іх абароне“...

Надзвычай цікава, што нямецкія сацыялісты, як сцьвярджае „Robotnik“, „гарача выступаюць у абароне гэтага „пакту“, у якім бачаць важны крок на шляху да міру, рэзка разыходзячыся ў гэтым з англійскай партыяй працы“ і — пэпээсаўцамі ў Варшаве.

„... у Францыі, кажа газэта, прынялі „пакт“ з панурай самаахвярнасьцю... Францыя згадзілася на пакт у вельмі цяжкім палажэньні“...

„Kur. Por.“ дужа добра зразумеў усю небясьпеку для Францыі ад гарантаваньня Англіяй дэмілітарызаванага „Рэйнскага поясу“ (узьбярэжжа пагранічнай ракі Нямеччыны Рэйну). Францыя можа атрымаць права пераходу праз яе толькі з дазволу Рады Лігі Народаў, якая перад усім павінна сцьвярдзіць **дакладна-юрыдычна** факт нападу Нямеччыны („aggression cora ktérisée)“. А калі будзе сцьверджаны Радай Лігі факт **самавольнага** нападу **Францыі** на Нямеччыну (напрыклад, бороннячы Польшчу), дык гэта ня толькі не абязывае Англію памагчы Францыі, аж—наадварот: дасьць Англіі права стануць на старане Нямеччыны — **проці** Францыі і яе саюзьніц... Бо-ж англійскі прэм'ер Бальдвін—зусім афіцыяльна і выразна заявіў, што пакт гарантуе **заходнія граніцы Нямеччыны на абодва бакі**...

„Gaz. Warszawska“ зусім адкрыта называе „пакт бясьпечнасьці“—„пактам небясьпекі“. „Чым далей, тым больш маем даводаў, што „пакт бясьпечнасьці“, гэта-ж — найстрашнейшая з усіх небясьпекаў, якія толькі пагражаюць Польшчы. — Здаецца, што рахаваць на помач Францыі—у выпадку нямецкага нападу—поўнае самаашуканства“.

„Важнейшым пунктам конспірацыйнай змовы (палітыкаў Англіі і Францыі) зьяўляецца ня менш ня больш, як **новы падзел** паўстаўшай з мёртвых—Польшчы — шляхам адабраньняў яе паўночна-заходніх яе абшараў і закрыцьця для яе доступу да мора“—кажа ў тэй-жа газэце п. Сьвентаховскі. „Трэба сказаць сабе адкрыта, што дзяржавы, кіруючыя Эўропай—пад уплывам Англіі—**пастанавілі забіць** Польшчу, ці, прынамся—настолькі аслабіць яе, каб яна—разьдзертая, з падрэзанымі жыцьцёвымі жыламі—патроху памірала“.

Вось, як разумеюць зьмест „пакту“ на вяршынах польскай палітычнай думкі. І толькі адзін, здаецца, п. Строньскі цешыцца на... скурцы свaей „warszawianki“, што ўсё ідзе, як найляпей, што „немцы пацярпелі з гэтым пактам—паважнае дыпляматычнае паражэньне“.

З усяго агрому разнародных водгукаў загранічнай прэсы выбярэм найбольш цікавыя галасы францускае прэсы.

„Echo de Paris“ („Рэха Парыжу“) ўжо даўно папераджала, каб не рабілі лішне вялікіх ілюзіяў аб тым, быццам Францыя лёгка пройдзе праз гарантаваную пактам лінію Рэйну—на помач Польшчы ці Чэхаславакіі. Даволі будзе толькі аднаго голасу ў Радзе Лігі—за Нямеччыну, каб Польшча была аддзелена зусім ад свaей саюзьніцы непераступнай для Францыі „лініяй Рэйну“. „Пакт выразна зьвязуе саюзныя з Польшчай рукі Францыі“. І Францыя—гэта-ж галоўнае! далася зьвязаць.

Вядомы праф. В. Баш у ўрадавым афіцыозе „Ere Nouvelle“ піша:

„Ці-ж ня ясна, што Францыя, як толькі яна пачуе сябе бясьпечнай ад Нямеччыны, будзе далей прымушана — змусіць Польшчу заключыць з Нямеччынай—„умову аб палюбоўным судзе“, якім трэба будзе шукаць паразуменьня ў справах данцыгскага калідору і Верхн. Сілезіі?!“.

Але найцікаўней піша вядомы спэцыяліст па „ўсходняй палітыцы“ Бэнвіль — у манархічнай і русафільскай газэце „Acfiou Fraueadze“. Бэнвіль, які навет у часы найбольш фантастычных „полёнофільскіх“ настрояў францускага грамадзянства, маніўшагася „замяніць зусім патрэбную для Францыі Расею—Польшчай“, пісаў, што Польшча—гэта толькі кліент, і вельмі цяжкі і каштоўны для Францыі кліент, клопату з якім будзе шмат, а карысьці—ніякай. Вось жа, цяпер п. Бэнвіле піша, што рэч зусім—ня ў тым, ці згодзіцца Англія на праход францускіх войскаў праз Рэйн — у выпадку нападу Нямеччыны на Польшчу... хай навет згодзіцца. Але гэта не ўратуе Польшчы, бо... бо—яшчэ вялікае пытаньне, ці захоча Францыя сама скарыстаць з гэтага дазволу ці згоды, — з гэтага права“...

Гэтак „пакт“ для Польшчы значыць нешта навет больш сумнае, чым — фактычныя хаўтуры польска-францускага саюзу...

## Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

**№ 244**—Паслоў Белар. Клюбу да п. міністра ўнутраных спраў — у справе фальшывага дазнаньня, зробленага Дэлегатам Ураду ў Вільні—у зьвязку з катаваньнем вучняў Беларускай Гімназіі.

16 жніўня 1924 г. у в. Мацкі, Мядзёльскай гміны, Дунілавіцкага павету прыбылі вывядоўцы з кіраўнікам паліцэйскага пастарунку і 2 паліцыянтамі і арыштавалі К. Янэля і Л. Бабровіча — вучняў Беларускай Гімназіі ў Вільні.

Арыштаваныя вучні былі адведзены ў Дуніловічы, дзе пры дапросе ў паветавай камандзе паліцыі іх зьбілі і скатавалі зьверскім спосабам. Ім скавалі рукі, залажыўшы іх пад калены, прасунулі палку ім паміж ног і рук і пасьля гэтага білі іх па пятках сьвінцовым прутом. Гэта рабіла такую боль, што катаваныя трацілі сьвядомасьць. Апрача таго, вучняў таптали нагамі, білі па твары і галаве, пасьля чаго пакінута іх у спакоі на некалькі гадзін, каб даць магчымасьць катаваным прысьці да сьведамасьці. Як толькі катаваныя прыходзілі да сябе, ізноў пачынаецца дапрос, злучаны з катаваньнем. Уканцы, дзякуючы ўдарам па галаве, вучань К. Янэль быў скалечаны: ад катаваньня ў яго лопнула барабанная перапонка ў левым вуху.

У зьвязку з гэтым праступленьнем, зробленым у ўрадзе павятовай паліцыі, было зроблена Дэлегатам Ўраду дазнаньне, рэзультаты якога газэта „Беларуская Доля“ падае так:

„У сваім часе апазіцыйная беларуская прэса пісала аб катаваньні дзяржаўнай паліцыяй вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі Кузьмы Янэля і Лявона Бабровіча; сёньня, даведаўшыся аб тым, што 3 паліцыянты, якія іх катавалі, прызналіся ў гэтым у сьледчага судзьдзі і цяпер сядзяць арыштаваныя на Лукішках, мы зьвярнуліся да Дырэкцыі Гімназіі даць нам больш падрабязныя весткі аб гэтай справе.

Аднак-жа, Дырэкцыя новых даных аб гэтай справе ня мела, але затое паказала нам вельмі цікавы дакумэнт, падпісаны за Дэлегата Ураду панам Дворакоўскім—ад 7/XI - 1924 г. № V 9649—наступнага зьместу:

Да пана Дырэктара Віленск. Беларускай Гімназіі ў Вільні, вуліца Вострабрамская, № 9.

У дадатак да маей паперы № V. 7877 з 15/IX г. г.—паведамляю, што зробленае дзеля гэтага спэцыяльна камандыраваным Дэлегатам Ураду ўрадоўцам сьледзтва ў справе „так званага“ біцьця і катаваньня вучняў Беларускай Гімназіі Янэля і Бабровіча—не пацьвярдзіла фактаў, якія закідаліся агэнтам дзяржаўнай паліцыі ў Дунілавічах і Мядзёле.

Агляд Кузьмы Янэля, зроблены па маему даручэньню дзяржаўным доктарам, сцьвярдзіў, што ў вышэй названага слух не аслаблены; што-ж датычыць дзіркі ў барабаннай перапонцы ў левым вуху, дык яна зрабілася не ад біцьця, але з прычыны пережытай хваробы (напр. грыпа, злучанага з запаленьнем сярэдняга вуха).

Пры гэтым дабаўляю, што акты сьледзтва перададзены п. Пракурору „Віленскага Акружнага Суду“.

Добрых, відаць, адміністрацыйных урадоўцаў і дахтароў мае п. Дэлегат Ураду, няма чаго казаць! — Ані „так званага“ біцьця, ані катаваньня ня было, ані слух у хлапца не аслаб (толькі ён пачаў горш чуць); што датычыць дзіркі ў барабаннай перапонцы, дык гэта—ад хваробы (ад нейкай грыпы, ці якой іннай „трасцы“, толькі не ад біцьця па вуху п.п. паліцыянтаў!)...

А што скажа ўрадовы дохтар тады, калі дохтарская картка, якую мае кожны вучань школы, запоўненая ў канцы школьнага году, гэта значыць—за некалькі месяцаў перад катаваньнем, ня выкажа ніякіх дзірак у вуху Янэля, а датаго—на падставе паказаньняў сьведкаў — будзе ўстаноўлена, што ў працягу апошніх 2 месяцаў ён ні на якія хваробы не хварэў?“.

У віду вышэйпрыведзенага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1. На якой падставе ўрадавы дохтар, каб замясьці сьляды праступленьня паліцыянтаў—зрабіў лекарскі агляд так, што напісаў пратакол, нязгодны з запраўдным станам рэчаў?

2. Ці мае ў віду гэтага — склікаць камісію з лекароў—у мэтах раскрыцьця праступленьня па-

## ЗВАНЫ ПРАЦЫ*).

### КАВАЛЬ.

Каваль да працы надта рупны,
Дужэй, чымсь дужы конь;
Яму паслушны і даступны
Вада, руда, агонь...
　　Дзьмухне на іскру—промень стане
　　І сыпне іскры сталь;
　　За што ці возьмецца, ці гляне—
　　Відзён у ім каваль...
І кожны дзень ахвота к працы...
Гарыць, зіяе печ...
У яго руках багацьце, шчасьце:
Куе ён серп і меч.
　　А заўтра, брацьце, з пазаранкам
　　Ен скажа нам: пара
　　Паліць няволю, як маланкай,
　　Бо волі жджэ зара...
Пад дзьмух мяха і іскраў сьвісты
Нясецца песьня ўдаль,
Пяюць так стройна, галасіста—
Мужык, пастух, каваль...

### ТКАЧЫХА.

Сяду я і буду ткаці
На новенькім на варштаце...
　　Сюды-туды, мой чаўнок!
　　Варушыся-жа, дружок!
Спрытна рукі неяк ходзяць
І чаўночак ловяць, ловяць...
　　Сюды-туды, мой чаўнок,
　　Варушыся-жа, дружок!
І плятуцца ніткі-струны,
А чаўночак ўецца ўюнам...
　　Сюды-туды, мой чаўнок,
　　Варушыся-жа, дружок!
Вось і зроблена аснова,
Ужо тканіна будзе нова...
　　Сюды-туды, мой чаўнок,
　　Варушыся-жа, дружок!
Як зраблю—на луг пасьцелюць,
Промень сонейка пабеліць...
　　Сюды-туды, мой чаўнок,
　　Варушыся-жа, дружок!
Сяньнік будзе і мяшочкі,
Навет зрэбныя сарочкі...
　　Сюды-туды, мой чаўнок,
　　Варушыся-жа, дружок!

### ДУМКІ РАБОЧАКА.

Даволі жальбы і цяжару!—
Я-поўны веры і надзей...
Дзьмухну на іскру—і пажарам
Яна асьвеціць ўсіх людзей...
　　Вазьму пілу, вазьму сякеру
　　І ў пушчы шлях сабе праб'ю,
　　Бо мне ня страшны люты зьверы:
　　Жыву я вольна і пяю...
Мяне ня страшыць звон кайданны—
Жыве мой молат, моцай—сталь...
Я ў сіле буйнай гартаваны:
Рабочы я—дабра каваль!
　　Гляджу на жыцьце я з надзеяй,
　　Нядолі зьнішчаны сьляды:
　　Ўжо промень шчасьця чырванее
　　Бяз сьлёз і мукаў і бяды...
Жыцьцё зіяе майскай кветкай
І ня відаць ўжо сьлёз-расы,
Бо чуцен звон ў далі палеткаў
Сярпа і гострае касы...

### ЗАВОД.

У бегу дзён я чую звон,
Машынны звон, стальны...
Магутны ён мой гоніць сон...
За ім яшчэ званы
　　Удаль бягуць, зьвіняць, гудуць,
　　Заводзяць роем пчол...
　　Ідуць, па очапах паўзуць
　　Раменьні навакол...
Між іх палос ёсьць шмат калёс,
Ад іх ізноў шнуры...
А тут насос у землю ўрос...
Мурашкі-жыхары
　　Скрозь дым і муць куюць, куюць
　　Жалеза і чыгун...
　　А печы дзьмуць — агнём плююць...
　　А стружкі нібы ўюн
Варштат грызе... Яна паўзе
З зубоў яго на дол...

*) „Званы Працы“—гэта адзін з аддзелаў зборнічку А. Гурлы; „Барвенак“, Менск, 1924 г.

ліцыянтаў, якія прымалі ўчасьце ў катаваньні вучняў?

3. Ці мае палажыць канец біцьцю і катаваньню паліцыяй вучнёўскай моладзі?

Варшава, 5/V—1925 г.

**№ 245—Паслоў Беларускага Клюбу да пан Міністра Унутраных спраў—у справе канфіскаты № 27 „Беларускай Долі“.**

Камісар ураду на м. Вільню канфіскаваў № 27 „Беларускай Долі“ ад 25/IV — 1925 г. за артыкул „Рашучы выбар“, „Водгукі катаваньня вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі“ і карэспандэнцыю „Закон 7/I—1925 г. „аб школьніцтве на мясцох“.

Гэтая канфіската, як і рад папярэдніх, мае мэтай тэрарызаваньне (wykonywanie) беларускай прэсы.

У віду гэтага інтэрпэлянты пытаюцца ў пана Міністра:

1) Ці мае ён даручыць Камісару Ураду ў Вільні, каб той перастаў перасьледаваць беларускую прэсу;

2) Ці мае загадаць яму зьняць арышт з № 27 „Беларускай Долі“.

Варшава, 5/V—1925 г.

**№ 246—Паслоў Беларускага Клюбу да п. Міністра Зямельных Рэформ — у справе забраньня сялянскай зямлі для асаднікаў у Горадзенскім павеце.**

Сяляне в. Кулі, Галынскай гм., Горадзенскага павету, маюць супольны выган з маёнткам Паплаўцы—прасторам у 24 дзесяціны. З гэтай сэрвітутнай зямлёй гранічыць і іх уласны выган — у 14 дзесяцін—і луг прасторам у 24 дзесяціны—належачы таксама да сялян вёскі Кулі.

У віду вызначэньня маёнтку Паплаўцы на парцэляцыю ў 1922 г., прыехаў на мейсца землямер Зямельнага Ураду ў Горадні — каб зрабіць плян маёнтку.

Пры ўстанаўленьні граніцы з сялянскай зямлёй вёскі Кулі былі вызваны жыхары вёскі Кулі, якія паказалі, як ідзе граніца. Але землямер ня прыняў пад увагу граніцы, паказанай сялянамі в. Кулі, і вызваў сялян: з вёскі Галынка — 3 асобы з вёскі Непарожняўцы—3 асобы, з вёскі Клікаўцы—3, з вёскі Кулі—3 асобы і з вёскі Малае-Язёрна—1 асобу, якая была сторажам у маёнтку Паплаўцы да 1915 г. Але і цьверджаньню гэтых 13 асобаў ня было дана веры, і ў 1923 г. землямер зусім па сваей самавольнай думцы сам устанавіў граніцу, адрэзаўшы ў сялян 24 дзесяціны сэрвітутнай зямлі і 14 дзесяцін уласнай іх зямлі, аднэчасна прызнаўшы 24 дзесяціны сялянскага лугу за—луг сэрвітутны.

Калі была праведзена такая граніца, зямельны камісар супакоіваў насяленьне вёскі тым, што ўзамену за адрэзаную зямлю ўрад дасьць яму 100 дзесяцін зямлі ў другім мейсцы.

Тымчасам уплывае ўжо 3 гады, а гэтая справа ўсё стаіць на мёртвым пункце.

Паўнамоцнікі в. Кулі Г. Василеня і Лявон Сягэнь езьдзілі ў гэтай справе да зямельнага камісара, просячы яго прынамся аб выданьні копіі пратаколу аб усталеньні граніцы, каб скіраваць усю справу ў суд.

Аднак, камісар навет у гэтым адмовіў, пацяшаючы сялян тым, што гэтая справа яшчэ можа вырашыцца палюбоўным спосабам.

Тымчасам вайсковыя асаднікі забралі сялянскую зямлю (42 дзесяціны), не дапускаюць сялян да карыстаньня ані сэрвітутнай, ані — іх уласнай зямлёй, не дапускаюць навет сялянскага быдла да ракі на вадапой.

Вышэйпрыведзены факт ярка характэрызуе палітыку польскага ўраду адносна беларускага сялянства.

Замест таго, каб даць зямлю сялянам, ад іх яшчэ адбіраецца зямля іх уласная і аддаецца асаднікам.

Калі-б узапраўднасьці справа граніцы была спорнай, тады палітыка ўраду павінна была-б быць скіравана на шлях палюбоўнага вырашэньня справы, а навет прызнаньня сялянам больш зямлі, чым яны мелі дагэтуль. Тымчасам бачым адносіны — адваротныя. Зямельны камісар не дазваляе навет сялянам дабівацца сваіх правоў шляхам суда, адмаўляючыся выдаць копію пратаколу ўстанаўленьня граніцы.

У віду вышэйпрыведзенага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці мае ён пацягнуць да адказнасьці зямельнага камісара ў Горадні за пакрыўджаньне сялян і адняцьце ад іх уласнай зямлі—шляхам бясправўнага ўстанаўленьня граніцы?

2) Ці мае загадаць вярнуць насяленьню адабраную зямлю і правясьці граніцу законным спосабам?

3) Ці мае ён надзяліць малазямельных сялян в. Кулі зямлёй з суседняга маёнтку — згодна з законамі аб зямельнай рэформе.

Варшава, 5/V—1925 г.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Урадавы крызіс.

Урадавы крызіс у Польшчы, пачаўшыся з выхаду ў адстаўку п. Тугутта, „пацягнуўшага“ за сабой і міністра Ратайскага з яго „Крэсавым знаўцам“ п. Смульскім, патроху ліквідуецца.

Толькі што міністрам унутраных спраў назначаны віленскі Дэлегат Ураду п. Рачкевіч, які ўжо быў нешта каля 2 тыдняў на становішчы міністра ў габінеце прэм'ера Скульскага.

П. Рачкевіч лічыцца ў Варшаве вялікім знаўцам крэсовых, а перадусім беларускіх спраў: як ведама, ён горача падтрымліваў аслаўленую „аляксюкоўшчыну“ і „ўзгадаваў“ ня менш уславіўшагася „доктара“ Павлюкевіча.

Уся польская прэса, навет „Robotnik“, вельмі прыхільна спаткалі гэтае назначэньне.

Прэм'ер выпісаў сьпешна ў Варшаву п. Леона Васілеўскага, аднаго з тварцоў Рыжскага Трактату, якому маніцца даць „мейсца Тугутта“.

П. Васілеўскі — таксама „знаўца“ беларускіх спраў... спрад 20 гадоў! Прынамся ў сваіх палітычных брашурах ён паўтарае аб беларусах тое, што пісаў 20 год назад, а тое, што сталася ў беларусаў ад часу сусьветнае вайны, для яго ня істнуе!

Як бачым, зьмены ў складзе ўрада п. Грабскага нічога добрага нам, беларусам, ня суляць...

### „Бунт“ у Львоўскай турме.

14/VI у Львоўскай турме палітычныя вязьні зрабілі, як кажа тэлеграма, „бунт“. 50 паліцэйскіх, якіх паклікала адміністрацыя вастрогу, хутка, зрабілі парадак... „Сьледзтва“ (?) высьветліла, што бунт (папросту крык; дзеля чаго—„сьледзтва“ ня кажа) выкліканы ўкраінскім камуністам Мельнікам...

## Заграніцай.

### Перамога „польскай тэзы“ на канфэрэнцыі аб „разбраеньні“.

На канфэрэнцыі ў справе „разбраеньня“ (абмяжаваньня таргоўлі аружжам) перамагла „польская тэза“,—каб з яўнасьці ўсіх заказаў і перавозак усялякага аружжа зрабіць вынятак для ўсіх дзяржаваў, суседніх з Расеяй. Дык усе транспарты аружжа і ўсялякіх ваенных матар'ялаў, якія йдуць у Польшчу, Румынію, Фінляндыю, Латвію і Эстонію,—не падлягаюць выяўленьню.

Гэты пункт прыняты і ўстаўлены ў тэкст канвэнцыі (ўмовы).

Ці-ж ня ясна, што гатуецца новая спроба акружэньня жалезным абручом Расеі, а, можа, і—новай інтэрвэнцыі?

Гэта—старая думка Англіі, відаць, падноўленая Чэмбэрленам, які маніцца ўцягнуць у гэтую новую спробу Нямеччыну, бо быццам толькі яна адна здалее скінуць бальшавікоў.

Калі-б яно было і так, дык гэта і дзеля гэтага Нямеччына перад усім павінна быць моцнай. А другое—Нямеччыне трэба за гэтую акцыю заплаціць — Польшчай.

Вось, можа, якраз па гэтым шляху і йдзе „паразуменьне“ Англіі з Францыяй, прыняўшых аднагалосна на канфэрэнцыі ў справе „разбраеньня“ (вярней—тайнага збраеньня на граніцы Расеі) ў Жэневе—паразумеўшыхся ў справе першага акту—прынясеньня Польшчы ў ахвяру Нямеччыне.

### Артыкул Троцкага.

У радавых газэтах зьмешчаны артыкул Троцкага ў памяць забітых у Шанхаі кітайскіх работнікаў і студэнтаў.

Палемізуючы з заявай англійск. газ. „Таймса“, што „рух кітайскіх народных масаў мае маскоўскі запах“, Троцкі кажа: „Добра, — ад гэтай хвіліны Кітай будзе ведаць, што „маскоўскі запах“, гэта — дух рэвалюцыйнай салідарнасьці, ахопліваючай усіх паняволеных і ўціснутых у іх барацьбе з уціскаючымі. З другога-ж боку, кітайскі народ будзе ведаць, што атмасфэра, пануючая ў падвалах брытанскіх турмаў у Шанхаі, рэпрэзэнтуе „дух англійскай вольнасьці“. Абгаварываючы думку Мак-Дональна аб скліканьні міжнародавай канфэрэнцыі ў кітайскай справе, Троцкі кажа, што Мак-Дональд, пэўне-ж, ня мае для гэтай канфэрэнцыі гатовай праграмы, дык вось, Троцкі гатовы—пазычыць гэтую праграму лідэру англійскіх работнікаў.

„Праграма мая — вельмі кароткая, кажа аўтар. Вось яна: „кітайская хата належыць да кітайца, каб увайсьці да гэтай хаты, трэба канешна перад тым пастукаць у дзьверы. Гаспадар гэтай хаты мае-ж права пусьціць да яе толькі прыяцеля, а выгнаць таго, каго ўважае за ворага. Вось, і ўся праграма — на першы пачатак“.

### Ліквідацыя „камунізму“ ў Баўгарыі.

На інтэрпэляцыю сацыялістаў ваенны міністар Халфов заявіў, што ліквідацыя камунізму (85 проц. нага-сялянства!) у краю заканчваецца.

Усяго арыштаваны 3.194 душы; 182 справы — яшчэ ў сьледчага; 105 працэсаў ужо пачаты.

Ваенны міністар ня кажа толькі, што ўсяго забітых яго ўрадам, як гэта асабіста сцьвердзіў у Баўгарыі вядомы ўсяму сьвету лідэр бэльгійскіх сацыялістаў Вандэрвэльдэ, больш 10.000 душ—па „суду“ і бяз суда...

### Чэхаславакія і „пакт бясьпечнасьці“.

Чэскі міністар Бэнэш заявіў Брыяну, што згаджаецца на „пакт бясьпечнасьці“—у тэй форме, якую прыняў ён у англа-францускім „паразуменьні“. Чэхаславакія больш усяго заінтэрэсавана ў тым, каб Нямеччыне не далі далучыць да сябе Аўстрыю.

## У Кітаі.

### Новая „сусьветная вайна“ на ўсходзе.

Лёнданскія газэты пішуць, што ўвесь Кітай узварушыўся і стаіць за паўстанцаў. Навет малыя дзеці прымаюць учасьце ў барацьбе проці чужакоў.

У Пэкіне—пад націскам паслоў і консулаў — паліцыя страляла з кулямётаў у народ. Многа забітых.

---

Аж пот ідзе... Завод гудзе
Ўдалі ад ніў і сёл...

### У ЖЫЦЬЦЕВАЙ КУЗЬНІ.

Стукаюць цяжкія молат за молатам,
Сыплюцца іскра за іскраю золатам,
Бляскі кладуць на зямлі...
Цяжкаю працай заняты тут волаты:
Жыцьце куюць кавалі.

Печы зіяюць, зіяюць рагочучы,
Дзьмухаюць голасна мехі, прарочачы
Шчасьця сьвятога прыход...
Ў гэтым запэўніць працоўнікаў хочучы,
Зьяе праменна ўсход...

Жыцьце абняла навокала раніца,
Будзіць прачнуцца, будзіць ахаяцца,
З песьняю к працы заве...
Ласкаю сонца зіяе-ўсьмяхаецца,
Космы кладзе на траве...

Стукае молат паўднёвымі ўдарамі,
Суліць растацца з мукай, з цяжарамі,
Будзіць палёт пачуцьця...
Што яшчэ ўчора здавалася марамі, —
Сёньня—здабытак жыцьця...

### РАНІЦА.

Гудкі з гудкамі зьліліся ў гукі,
Гукаюць гучна навакол,
І грукі чутны, чутны стукі
Ад конскіх ног, павозак, кол...

Зьвініць машына на заводзе,
Званіцы звоняць звонам з выш,
Здаецца—песьню ўсё заводзіць,
І заміраe ўсюды ціш...

Абапал мураў, як мурашкі,
Мільгаюць людзі—месяць сьнег...
Мінулі мары ночы цяжкай,
Дзень мерать стаў магутны бег...

### ДУМКІ.

Многа дум навяваюць муры,
Гарадзкія высокія стромы...
Вось дзе пот пралілі муляры—
Дзеці буры, маланак і грому...

Яны цэглу за цэглай нясьлі,
Клалі шчыльна, замазаўшы вапнай,
І за мурамі горад ўзьнялі—
Не адзін назавідуе сквапны...

Колькі вуліц—ня зьмерыць іх крок,
Не асіляць хадою і боты...
Чую з далі фабрычны гудок...
Гэта кліча машына к рабоце...

Што дзівіцца?—Я сам працаўнік
І мазольныя маю я рукі;
Мяне кліча ў завод паравік,
Мяне вабяць машынныя гукі.

Дзе пануе на вуліцах змрок,
Я прарэжу яго, як маланкай,
Мне пад'ўладны жалеза і ток—
Я прымушу стаць ноч пазаранкам.

### ЛЮБЛЮ Я ФАБРЫК ПЕРАКЛІЧКУ.

Люблю я фабрык пераклічку,
Іх раньні гук—
Вядома працы мне прывычка,
Мазольнасьць рук!

Як толькі зьнікне з пазаранкам
Туман і цень,
Машынны зык ляпей шарманкі
Сустрэне дзень...

Шчасьлівай долі ў ім надзея
І працы сьпех,
Яго музыкай душу грэю
Замест пацех...

Зброя для рук—мае мазолі,
А жылы—дрот;
Загэтым я кірую к волі
Свой гмах—палёт.

Загэтым люба творчасьць працы—
Я ня гультай,
Загэтым мушу спадзявацца
На жыцьце—рай...

**А. Гурло.**

